# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

травень 2011 г.

5 траўня

## Глыбоцкі суд аштрафаваў Яраслава Берніковіча за дазволены пікет



За санкцыянаваны пікет глыбоцкі актывіст Яраслаў Берніковіч прысуджаны да штрафу ў памеры 20 базавых велічыняў, або 700 тысяч рублёў. Такое рашэньне прыняў судзьдзя раённага суду Глыбокага Станіслаў Трапук. Яраслава Берніковіча аштрафавалі як арганізатара пікету, зладжанага 19 сакавіка на знак салідарнасьці з палітвязьнямі - удзельнікамі акцыі пратэсту супраць фальшаваньня вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў.

Нягледзячы на тое, што пікет быў дазволены ўладамі, больш як празь месяц пасьля яго правядзеньня - 27 красавіка - на актывіста склалі міліцэйскі пратакол. Міліцыянты паказалі актывісту заяву, напісаную ад імя старшыні равыканкаму Алега Морхата, у якой той прасіў міліцыю даць прававую ацэнку дзеяньням арганізатара акцыі. Як адзначалася ў напісанай чыноўнікам заяве, акцыя скончылася на 10 хвілін пазьней за дазволены час, падчас яе выкарыстоўваліся агітацыйныя матэрыялы, не пазначаныя ў заяўцы, ды быў усталяваны намёт. Менавіта ўсталяваньне намёту і было прызнана правапарушэньнем, за якое арганізатара дазволенага пікету пакаралі штрафам.

6 траўня

### Пасьля хуліганскага выбрыку міліцыянтаў Тацьцяна Севярынец зьвярнулася ў пракуратуру

Маці палітвязьня Паўла Севярынца Тацьцяна Севярынец вымушаная была зьвярнуцца ў гарадзкую пракуратуру Менску са скаргай на дзеяньні міліцыянтаў. Інцыдэнт адбыўся ў будынку суду Фрунзэнскага раёну сталіцы, дзе праходзіць працэс над былым кандыдатам у прэзыдэнты Віталём Рымашэўскім. Да Тацьцяны Яўгенаўны падыйшоў маёр міліцыі Максім Грышчанка і пачаў зрываць завязаную ў яе на шыі бел-чырвона-белую стужку. Пры гэтым міліцыянт грубіў кабеце, пагражаў ёй затрыманьнем.



Пазьней Тацьцяна Севярынец ізноў павязала стужку, і да яе ізноў пачалі чапляцца міліцыянты. Гэтым разам у хуліганскім выбрыку, апроч згаданага вышэй Грышчанкі, удзельнічаў яшчэ адзін супрацоўнік ГУУС Менгарвыканкаму - Дзьмітры Курыльчук, вядомы таксама па мянушцы “Эгіпет”. Спыніць міліцыянтаў-свавольнікаў здолеў толькі іхны начальнік - палкоўнік Ігар Яўсееў.

6 траўня

### Сяргея Каваленку зноў забралі ў ізалятар часовага ўтрыманьня



Сёньня Віцебскага актывіста КХП БНФ Сяргея Каваленку зноў даставілі ў ІЧУ. Ён мае дасядзець яшчэ 6 дзён з прызначанага яму раней 15-дзённага арышту. Гэтая «адседка» Каваленкі пачалася 1 красавіка, адразу пасьля таго, як скончыўся папярэдні тэрмін яго зьняволеньня - 7 сутак. Праз колькі дзён пасьля пачатку чарговага зьняволеньня актывіст патрапіў у шпіталь - ішоў 11-ы дзень ягонай галадоўкі супраць незаконных, на погляд апазацыянэра, арыштаў і навогул супраць проціпраўнай дзейнасьці сілавых структураў. Пасьля шпіталю спадара Каваленку часова вызвалілі, але 22 красавіка ён ізноў апынуўся за кратамі. Актывіст аднавіў галадоўку пратэсту. У выніку ў яго рэзка ўпаў ціск, і 28 красавіка, не шпіталізуючы, яго адпусьцілі дадому.

Камэнтуючы свой цяперашні арышт, Сяргей Каваленка ня выключыў, што яго адмыслова зьняволілі перад сьвяткаваньнем Дня Перамогі - асьцерагаючыся, каб у Віцебску не зьявіліся бел-чырвона-белыя сьцягі. Спадара Каваленку ўважаюць за самага вядомага ў краіне паплечніка легендарнага «Мірона».

7 траўня

## Мікіту Ліхавіда этапавалі ў калёнію



Сёньня актывіста руху «За свабоду» Мікіту Ліхавіда выправілі зь СІЗА ГУУМ Менгарвыканкаму (Валадаркі) у Наваполацкую калёнію. Палітвязень быў асуджаны да трох з палова гадоў зьняволеньня ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму за ўдзел у масавых непарадках, якія нібыта мелі месца 19 сьнежня ў Менску.

8 траўня

## Полацкія паштавікі вынесьлі прысуд «Нашай Ніве»

Нягледзячы на тое, што рашэньня суду аб закрыцьці «Нашай Нівы» яшчэ няма, адзьдзяленьні сувязі Полацку і Полацкага раёну адмаўляюцца прымаць падпіску на найстарэйшую беларускую газэту. Больш таго, супрацоўнікі галоўнага паштовага адзьдзяленьня Полацку абзвоньваюць вузлы сувязі і загадваюць анулюваць падпіску на выданьне. Цяпер падпісантам вяртаюць грошы за падпіску, сьцьвярджаючы, быццам бы газэта больш выходзіць ня будзе.

Судовыя працэсы аб закрыцьці «Нашай Нівы» і «Народнай Волі» былі ініцыянаваныя Міністэрствам інфармацыі. 11 траўня ў Вышэйшым гаспадарчым судзе адбудзецца падрыхтоўчае паседжаньне па справе «НН».




9 траўня

## **На парад людзей зганялі**



«Сёньня ў Віцебску на парад выйшлі людзі, якіх прымусілі туды пайсьці. Напярэдадні аднаго з маіх сваякоў, работніка Віцебскай чыгункі прымусова пагналі на парад... Я думаю што па ўсёй краіне знойдуцца сотні такіх», — напісаў 9 мая ў электронным лісьце ў НН чытач Юры К. зь Віцебску.

Прафанацыя памяці, прафанацыя сьвята — заганяць людзей на афіцыёзныя шэсьці. Як калісьці ў саветаў, фальш прасякае ўсе сфэры жыцьця ў сучаснай Беларусі.

*Газэта «Наша Ніва»*

9 траўня

## Дар’я Корсак нарэшце змагла наведаць мужа ў калёніі «Віцьба-3»



Дар’я Корсак, жонка палітвязьня Аляксандра Атрошчанкава, нарэшце наведала мужа, які адбывае 4-гадовы тэрмін зьняволеньня ў калёніі «Віцьба-3» па абвінавачаньні ва ўдзеле ў т.зв. масавых непарадках. У калёніі быў дзень адчыненых дзьвярэй, і сваякі зьняволеных мелі магчымасьць пабачыць, у якіх умовах жывуць вязьні.

Падчас канцэрту самадзейнасьці, што ладзілі зьняволеныя, Дар’і Корсак удалося паразмаўляць з мужам: палітвязень адчувае сябе добра, асабліва на ўмовы ўтрыманьня ня скардзіцца. Аляксандар Атрошчанкаў таксама распавёў жонцы пра псыхалягічны ціск, які прымяняўся ў адносінах да яго і іншых асобаў, пакуль ён знаходзіўся ў СІЗА КДБ, - у прыватнасьці, вязьняў палохалі электрашокерамі, каб дамагчыся ад іх патрэбных паказаньняў.

Раней Дар’я Корсак падавала заяву ў пракуратуру, каб там праверылі факты катаваньняў.

9 траўня

## АРШАНСКІЯ НАСТАЎНІКІ ЗАСТАЛІСЯ БЯЗЬ СЬВЯТАЎ



У той час, калі ўся краіна адзначала шэраг травеньскіх сьвятаў, не да адпачынку было пэдагогам аршанскіх агульнаадукацыйных школ. У першых чыслах мая ў горад на Дняпры наляцела высокая камісія, прадстаўленая супрацоўнікамі Адміністрацыі прэзыдэнта і Ўпраўленьня адукацыі Віцебскага аблвыканкаму. Татальнай праверцы падвергліся ўсе школы гораду. Падставай стаў тэракт у менскім мэтро.

У выходныя дні ўсе настаўнікі выходзілі на працу для гутаркі з камісіяй. Асобная размова адбылася з настаўнікамі хіміі, працы і фізыкі. Як распавялі самі пэдагогі, правяраючыя паводзілі сябе так, як быццам на ўроках хіміі вучням толькі і распавядаецца аб тым, як зрабіць выбухоўку, на ўроках працы - пра тое, як зь яе сабраць бомбу, а на ўроках фізыкі - як правільна разьлічыць сілу і накірунак выбуху.

Верхам напалу жарсьцяў стала сытуацыя ў адной са школ. Тут правяраючыя накінуліся на стары зачынены сэйф, ад якога ні ў каго з работнікаў не было ключоў. Цяжка сказаць, што падказала высокім гасьцям ўспаленае ўяўленьне, але па іх загадзе неадкладна былі выкліканыя рабочыя, якія з дапамогай балгаркі ўскрылі злапомны сэйф. У ім былі знойдзены пажоўклыя ад часу аркушы паперы зь ліставаньнем, якое адносіцца да шасьцідзясятых - сямідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя.

10 траўня

### *У Віцебску працягнецца суд над журналістам Уладзіславам Стараверавым*

Пасьля затрыманьня 26 красавіка, калі Стараверaў фатаграфаваў жалобную акцыю да ўгодкаў аварыі ў Чарнобылі, міліцыянты абвінавацілі яго ў дробным хуліганстве – 27 красавіка ў Кастрычніцкім райсудзе Віцебску пачаўся разгляд адміністрацыйнай справы, ініцыяванай супраць журналіста. 10 траўня суд будзе працягвацца.

Судзіць віцебскага журналіста Ўладзіслава Стараверава даручана судзьдзі Кастрычніцкага райсуду Алесі Жарыкавай.

На мінулым паседжаньні хлопец заявіў, што яму патрэбны адвакат. Забясьпечыць абарону адразу было немагчыма, бо з жалобнай «чарнобыльскай» акцыі Стараверава завезьлі спачатку ў пастарунак, а потым – на ноч – у ізалятар часовага ўтрыманьня. Журналіста не адпусьцілі нават тады, калі ён запатрабаваў мэдычнай дапамогі, бо падчас затрыманьня міліцыянты яго зьбілі, і гэты стрэс выклікаў у хлопца праблемы з сэрцам.

Падчас сёньняшняга судовага паседжаньня Стараверaў зьбіраецца расказаць пра акалічнасьці затрыманьня ды заявіць пра сваю катэгарычную нязгоду з абвінавачаньнямі ў непадпарадкаваньні міліцыянтам і нецэнзурнай лаянцы:

«Літаральна празь некалькі хвілін пасьля таго, як я дастаў фотаапарат, на мяне са сьпіны напалі людзі ў цывільным. Зьбілі, паламалі аб’ектыў, паклалі тварам на асфальт. Было вельмі непрыемна тое, што яны рабілі, гэта для мяне стала шокам. Адразу я ня ведаў, за што мяне затрымалі, што мне інкрымінуюць. І толькі калі мяне павезьлі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, адзін з канваіраў сказаў, што за лаянку матам і непадпарадкаваньне міліцыянтам».

У якасьці сьведкаў на суд выкліканы супрацоўнікі міліцыі, і тым ліку і Ігар Скарыновіч, начальнік міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС Віцебскага аблвыканкаму. Менавіта падпалкоўнік Скарыновіч выказаў незадавальненьне, што міліцыянты таксама трапляюць «у кадар», і асабіста зьбіваў журналіста падчас затрыманьня.

Жаданьне стаць сьведкамі на працэсе выказалі і віцебскія актывісткі на чале з Тацьцянай Севярынец. Зьбіцьцё журналіста адбывалася ў іх на вачох, і пасьля затрыманьня Ўладзіслава Стараверава яны прыходзілі ў пастарунак ды напісалі некалькі скаргаў пра неадпаведныя паводзіны міліцыянтаў.



Скаргу ў пракуратуру накіраваў і сам Уладзіслаў Стараверaў. І гэта ўжо ня першая скарга на перавышэньне службовых паўнамоцтваў супрацоўнікамі міліцыі: 25 сакавіка журналіста таксама зьбілі і затрымалі перад пачаткам акцыі да Дня Волі. Пазьней, у пастарунку, міліцыянты заявілі, што ён падаўся ім падобным да маньяка-пэдафіла, які знаходзіцца ў вышуку.

Пра адно зь леташніх затрыманьняў Уладзіслава Стараверава шырока паведамлялася ў інтэрнэце. 8 лістапада журналіст здымаў на відэа віцебскага прадпрымальніка Ўладзімера Правальскага, які меў намер удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах. Яны абодва выклалі ў сеціва відэаролікі, дзе відаць, што міліцыянт Сяргей Казлоў правакуе хлопца на бойку, патрабуючы выключыць відэакамэру.

У сьнежні Ўладзіслаў Стараверaў атрымаў афіцыйнае папярэджаньне з абласной пракуратуры пра недапушчальнасьць супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

Калі цяпер суд прызнае яго вінаватым у хуліганстве, журналісту пагражае грашовы штраф або арышт да 15 сутак.

11 траўня

### *Уладзіслаў Стараверaў пакінуў Беларусь, але прысуд яму вынесьлі*

Як высьветлілася, віцебскі журналіст Уладзіслаў Стараверaў, па справе якога мусіў аднавіцца судовы працэс, зьнячэўку зьехаў з краіны. Нягледзячы на адсутнасьць падсуднага, суд аштрафаваў яго, нібыта за лаянку ў грамадзкім месцы, на 25 базавых велічынь - 875 тысяч рублёў. Як сведчаць відавочцы судзілішча, судзьдзя пры прыняцьці рашэньня і не спрабавала зрабіць бачнасьць справядлівага прысуду - перад вынясеньнем судовай пастановы яна нават ня выйшла з судовай залі. Такім чынам, зразумела: рашэньне было вызначанае загадзя.

12 траўня

### Яшчэ адно «дробнае хуліганства»

Адзін з затрыманых учора ў Наваполацку актывістаў, Віктар Калесьнік, аштрафаваны сёньня на 70 тысяч беларускіх рублёў за «нецэнзурную лаянку». Паводле словаў Віктара, яго таварышаў Яўгена Парчынскага і Ільлю Багданава пасьля трохгадзіннага затрыманьня і напісаньня тлумачальных наконт іх месцазнаходжаньня ў апошнія некалькі гадзін адпусьцілі з абяцаньнямі хутка выпусьціць і яго. Аднак самога Віктара правялі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, дзе актывіст правёў ноч. На яго быў складзены пратакол за нецэнзурную лаянку ў грамадзкім месцы.

Раніцай на суд не зьявіліся сьведкі-міліцыянты. Актывісту прапанавалі выбар: альбо ён знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрыманьня да таго часу, пакуль усе супрацоўнікі міліцыі ня змогуць прыбыць у суд, альбо ён можа адразу заплаціць мінімальны штраф за дробнае хуліганства. Віктар Калесьнік абраў штраф.

Наваполацкія актывісты Віктар Калесьнік, Яўген Парчынскі і Ільля Багданаў былі затрыманыя ў цэнтры гораду каля 19 гадзін вечара 11 траўня. Паводле словаў працаўнікоў міліцыі, у горадзе перад тым зьявілася новая хваля ўлётак з партрэтамі палітвязьняў.

16 траўня



### Маці абвінавачанага ў тэракце зьвяртаецца па юрыдычную дапамогу

Паводле паведамленьняў мэдыяў, жыхарка Віцебску, маці аднаго з двух абвінавачаных у справе выбуху ў менскім мэтро 11 красавіка, зьвярнулася па юрыдычную дапамогу. Жанчына кажа пра шматлікія парушэньні падчас сьледзтва. Так, апошнім часам на іх кватэры ў Віцебску і ў пакоі, які здымаў сын у Менску, адбыліся чатыры ператрусы, але кабеце з мужам не дазволілі там прысутнічаць, і, больш таго, нават ня выдалі пратаколаў паловы зь ператрусаў. Маці абвінавачанага ня верыць у вінаватасьць ейнага сына. Яна не выключае, што ў дачыненьні да яго прымяняюцца катаваньні.

16 траўня

## Жыхарам Віцебшчыны ўлады нагадалі пра часы Андропава

Чыноўнікі «вэртыкалі» ў рэгіёнах пачалі выконваць патрабаваньні Лукашэнкі аб узмацненьні дысцыпліны. Кіраўнік краіны нядаўна запатрабаваў выкарыстоўваць дзеля гэтага практыку андропаўскіх часоў. Ужо на сёньня ў рэгіёнах вядомыя факты, калі ладзяцца аблавы на так званых «прагульшчыкаў і дармаедаў», вяртаецца пісьмовы ўлік знаходжаньня людзей на працоўных месцах, а таксама кантроль за ідэалягічнай і кадравай працай.

*У школах — «андропаўшчына» і пошук «тэрарыстаў»*

У Віцебску штодня чакаюць «андропаўскіх» праверак. Нават выкладчыкаў школ і ВНУ, якія працуюць па раскладзе, а ня ўвесь працоўны дзень, змушаюць знаходзіцца на працы з ранку да вечара.

З гэтае нагоды ўвялі кантрольныя сшыткі, распавядае спадарыня Вольга, настаўніца адной зь віцебскіх школ:

«Гаварылі ж па тэлевізары, што ўсё будзе, як пры Андропаве. У нас завуч адзначае, хто ў колькі прыходзіць, хто ў колькі сыходзіць, калі сыходзіць і вяртаецца — таксама».



Пра тое самае гаворыць і настаўніца іншай школы, спадарыня Людміла:

«Сёньня мой бацька размаўляў са сваім калегам, які ў ВНУ працуе, дык там загадана зьяўляцца да пэўнай гадзіны. У нас таксама нешта падобнае ўвялі: прыходзіш — пазначаеш час і расьпісваесься, сыходзіш — ставіш час ды расьпісваесься. Да ўсяго ў нас новы начальнік райаддзелу адукацыі, ён асабіста аб'яжджае ўсе школы, дык усе школы працуюць — ня тое слова! А наша школа — непрыстасаваная, там дужа халодна бывае».

На нязручнасьці для настаўнікаў у Віцебску ўвагі не зьвяртаюць. У школах зь нядаўняга часу іншы клопат. Аляксандар Лукашэнка запатрабаваў успомніць, як у андропаўскія часы мацавалі працоўную дысцыпліну, абгрунтаваўшы гэта высновамі зь нядаўняга тэракту ў менскім мэтро. Таму сьледам за сярэдняй школай № 35, дзе вучыліся двое абвінавачаных у тэракце віцебскіх хлопцаў, усе школы толькі што перажылі праверку выхаваўчай працы і захаванасьці вучэбнай зброі.

*Абвінавацілі... за пачак сшыткаў пяцігадовай даўніны*

Цяпер у школе ўсё як у войску, кажа настаўніца спадарыня Вольга:

«Да нас таксама прыходзіла праверка... Цяпер як у войску: на кожнай шафе павінен быць сьпіс таго, што там захоўваецца».

А часам да настаўнікаў, якіх праверкі ўжо замучылі, патрабаваньні ўвогуле абсурдныя, кажа спадарыня Людміла:

«Аказваецца, у 35-й школе падчас праверкі знайшлі пачак сшыткаў пяцігадовай даўніны. І аказваецца, гэта таксама “крымінал”! Нам так і казалі: “Уяўляеце, там знайшлі сшыткі пяцігадовай даўніны! Глядзіце, каб у вашых шафах леташніх сшыткаў не было!”. Так што “андропаўшчына” — гэта ўжо асобным радком!»

*Пра пакараных чыноўнікаў яшчэ ня чулі*

Але актывіст грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Мікалай Петрушэнка перакананы, што для кагосьці новая «андропаўшчына» была б дужа карыснай:

«8 траўня я быў у аграгарадку Смаляны, там мусіў чыноўнік з аблвыканкаму прымаць грамадзянаў па асабістых пытаньнях. І што: аб'ява вісіць, а чыноўніка — няма!

Патрэбная “андропаўшчына” дэпутатам, каб яны своечасова выслухоўвалі нашых грамадзян, і патрэбная такім чыноўнікам аблвыканкаму, якія езьдзяць за камандзіровачныя, трацяць грошы дзяржаўнага бюджэту, але не выконваюць сваіх абавязкаў».

Пра пакараных чыноўнікаў на Віцебшчыне яшчэ ня чулі. Начальства палохае праверкамі пераважна шараговых працаўнікоў.

*Паводле матэрыялаў Радыё «Свабода»*

16 траўня

## Наваполацкі суд не задаволіў скаргу Яўгена Парчынскага



Судзьзя наваполацкага суду Алена Верташонак не задаволіла скаргу аднаго з ініцыятараў стварэньня грамадзкага аб'яднаньня «Вольны рэгіён» Яўгена Парчынскага. Актывіст вымушаны быў зьвярнуцца ў суд пасьля таго, як улады забаранілі акцыю, прымеркаваную да Дня Волі. Падчас акцыі плянавалася выказаць салідарнасьць з палітвязьнямі, асуджанымі за ўдзел у падзеях 19 сьнежня. Аднак намесьнік старшыні наваполацкага гарвыканкаму Вячаслаў Дурноў даў адмоўны адказ актывісту на яго запыт, сьцьвярджаючы, нібыта мерапрыемства ня можа адбыцца з тае прычыны, што менская акцыя была «антыканстытуцыйнай».

Яўген Парчынскі зьвярнуўся ў суд, бо тлумачэньне наконт «антыканстытуцыйнасьці» менскіх падзеяў яго не задавальняе: па-першае, афіцыйнага азначэньня характару менскай акцыі ў сакавіку яшчэ не было — яе ўдзельнікаў судзілі і прызналі вінаватымі ўжо пазьней. Па-другое, такой падставы для адмовы няма ў заканадаўстве аб масавых акцыях. Па-трэцяе, Вячаслаў Дурноў чамусьці напісаў, што абскарджваць ягонае рашэньне трэба не ў судзе, а ў аблвыканкаме, які ня мае такой кампэтэнцыі.

Падчас судовага разьбіральніцтва адбыўся інцыдэнт: з залі суду быў выдалены полацкі актывіст Віктар Калесьнік. Спачатку судзьдзя не дазволіла яму быць грамадзкім прадстаўніком Яўгена Парчынскага, а потым загадала выйсьці, абвінаваціўшы ў непавазе да суду.

16 траўня

## Пасьля прысуду: кветкі і сьлёзы

Родныя і сябры Ірыны Халіп, Сяргея Марцэлева, Паўла Севярынца сустракалі асуджаных, але выпушчаных пад падпіску палітвязьняў з кветкамі і сьлязьмі. Цяжка было распазнаць радасьць у іх вачах, хутчэй - палёгку. Сустаршыню па стварэньні



партыі БХД Паўла Севярынца адпусьцілі з-пад варты пад падпіску. Ягоная маці Тацьцяна ўздыхнула:

«У тых умовах, у якіх усё адбываецца, канечне, я адчуваю вялікую палёгку. Таму што зараз на нейкі тэрмін Паша будзе са мной побач. Будзе дома. Я змагу паклапаціцца пра ягонае здароўе. А ўвогуле лічу, што такіх прысудаў не павінна быць. Тое, што яшчэ судзяць хлопцаў, што засудзілі Саньнікава, — гэта спроба засудзіць праўду. Ёсьць сучасныя героі, героі нашага часу, нашай найноўшай гісторыі Беларусі — гэта ўсе тыя, каго судзяць, каго ўжо асудзілі — гэта вельмі прыстойныя людзі, узорныя, і яны за сабой павядуць іншых».

Згодна з рашэньнем, вынесеным сёньня судзьдзёй Завадзкога райсуду Менску Жанай Брысінай, Павал Севярынец асуджаны на тры гады абмежаваньня волі з накіраваньнем ва ўстанову адкрытага тыпу.

16 траўня

## Віцебскія актывісты патрабуюць вызваліць палітвязьняў




Нездалёк ад гістарычнага цэнтру Віцебску, ля моста імя Пушкіна зьявіліся расьцяжкі зь лёзунгамі «Свабоду палітвязьням!» і «Жыве Беларусь!». Гэтак актывісты «Эўрапейскай Беларусі» і віцебскага моладзевага нефармальнага аб'яднаньня «Вольны шлях» адрэагавалі на прысуды, вынесеныя нядаўна ўдзельнікам падзеяў 19 сьнежня. Расьцяжкі правіселі каля 15 хвілін, пасьля чаго былі зьнятыя міліцыянтамі.

17 траўня

## Камітэт па правох чалавека ААН прыняў пастанову паводле справы Алены Залескай



На 101-й сэсіі Камітэту па правох чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў была прынятая пастанова адносна звароту ў камітэт Алены Залескай. У сваім звароце жанчына сьцьвярджала, што беларускія ўлады парушылі яе правы, замацаваныя падпісаным Беларусьсю Міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правох. Камітэт прызнаў слушнасьць скаргі, пададзенай спадарыняй Залескай супраць дзяржавы. «Камітэт па правох чалавека, дзеючы на падставе часткі 4 артыкулу 5 Дадатковага пратаколу да Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, лічыць, што выкладзеныя факты выяўляюць парушэньне правоў заяўніка [Алены Залескай] паводле часткі 2 артыкулу 19 і артыкулу 21 Пакту,» - гаворыцца ў пастанове ўплывовай ўстановы ААН.

Як краіна - падпісант Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, Беларусь абавязаная непахісна трымацца ўсіх яго палажэньняў. Больш таго, згодна з нормамі міжнароднага права, у выпадку, калі ўнутранае заканадаўства ў нечым ўступае ў супярэчнасьць зь міжнароднымі пагадненьнямі, падпісанымі краінай, прыярытэт мусіць аддавацца апошнім.

Артыкул 19 Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, парушаны беларускімі ўладамі ў адносінах да спадарыні Залескай, забясьпечвае права грамадзянаў бесьперашкодна прытрымліваца сваіх перакананьняў. У частцы 2-й артыкулу гаворыцца: «Кожны чалавек мае права на вольнае выказваньне сваіх думак; гэтае права ўключае ў сябе свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага кшталту інфармацыю і ідэі, незалежна ад дзяржаўных межаў, вусна, пісьмова або праз друк ці мастацкія формы выразу або іншымі спосабамі на свой выбар».

Іншай нормай міжнароднага пагадненьня, у невыкананьні якой Камітэт па правох чалавека прызнаў вінаватымі ўлады Беларусі, зьяўляецца артыкул 21. Гэты артыкул абвяшчае: «Прызнаецца права на мірныя сходы. Карыстаньне гэтым правам не падлягае ніякім абмежаваньням, апроч тых, якія накладаюцца ў адпаведнасьці з законам і якія неабходныя ў дэмакратычным грамадзтве ў інтарэсах дзяржаўнай ці грамадзкай бясьпекі, грамадзкага ладу, аховы здароўя і маралі насельніцтва або абароны правоў і свабодаў іншых асобаў».

Алена Залеская вымушаная была зьвярнуцца ў Камітэт па правох чалавека пасьля падзеяў, што адбыліся 27 чэрвеня 2006 г. у Віцебску. Тады яна і двое ейных сяброў шпацыравалі ад плошчы Свабоды да вуліцы Леніна, раздаючы па дарозе мінакам афіцыйна зарэгістраваныя на той час газэты «Народная Воля» і «Товарищ», а таксама інфармацыйныя ўлёткі «За нашу, за вашу свабоду».

Раптам на спадарыню Залескую і яе паплечнікаў наляцелі міліцыянты. Яны абшукалі актывістку, канфіскавалі ў яе трынаццаць асобнікаў «Народнай Волі», каля сотні асобнікаў газэты «Товарищ» і недзе дзьвесьце ўлётак. Сама кабета была арыштаваная. У РАУС Кастрычніцкага раёну Віцебску на яе склалі пратакол нібыта аб адміністрацыйным правапарушэньні.

Шпацыр, у якім удзельнічалі ўсяго тры чалавекі, быў расцэнены як «масавае шэсьце», на правядзеньне якога трэба было, на думку беларускіх уладаў, браць адмысловы дазвол, і на наступны дзень пасьля падзеі Кастрычніцкі райсуд Віцебску прыняў рашэньне аб спагнаньні са спадарыні Залескай штрафу ў памеры 620 тысяч рублёў.

Нязгодная з рашэньнем райсуду Алена Залеская зьвярнулася са скаргай у Віцебскі абласны суд, аднак той пастановай ад 20 верасьня 2006 г. пакінуў рашэньне суду першай інстанцыі бязь зьмены. Таксама не прынёс плёну і зварот у Вярхоўны Суд: сваім рашэньнем, прынятым 10 лістапада 2006 г., ён пацьвердзіў, што рашэньне аб спагнаньні штрафу за арганізацыю «масавага шэсьця» быццам бы зьяўляецца правільным.

Такім чынам, усе магчымасьці дамагчыся справядлівасьці ўнутры краіны былі вычарпаныя, і спадарыня Залеская, упэўненая, што насамрэч былі парушаныя яе права на вольны распаўсюд інфармацыі і права грамадзян на атрыманьне гэтай інфармацыі, вырашыла зьвярнуцца ў міжнародныя структуры. Яна склала адпаведны зварот у Камітэт па правох чалавека ААН, які быў прынят да разгляду 8 лютага 2007 г.

Разьбіральніцтва па справе у Камітэце па правох чалавека доўжылася больш за чатыры гады. Цягам гэтага часу і заяўніца, і ўлады неаднаразова мусілі ў пісьмовай форме тлумачыць свае пазыцыі.

Нарэшце, некалькі дзён таму камітэт прыняў рашэньне. Была пацьверджаная рацыя Алены Залескай, і цяпер на падставе нормаў Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, згодна з рашэньнем камітэту, дзяржава «абавязаная забясьпечыць заяўніку эфэктыўны сродак прававой абароны, уключаючы адплату штрафу ў цяперашніх коштах і ўсе судовыя выдаткі, панесеныя заяўнікам, а таксама кампэнсацыю. Дзяржава таксама абавязаная прыняць захады, каб прадухіліць падобныя парушэньні ў будучыні». Цягам 180 дзён беларускія ўлады мусяць інфармаваць камітэт аб мерах, прынятых дзеля выкананьня пастановы камітэту.

Такім чынам, справядлівае рашэньне па справе, якая распачалася пяць гадоў таму, прынятае. На жаль, спадарыня Алена Васілеўна Залеская гэтага рашэньня не дачакалася. 27 ліпеня 2010 г. пасьля цяжкой хваробы старэйшая віцебская апазыцыянэрка на 78-м годзе жыцьця перайшла ў іншы сьвет...

19 траўня

## Палітвязень Мікіта Ліхавід пакараны карцэрам



Актывіст руху «За свабоду» Мікіта Ліхавід, які адбывае тэрмін зьняволеньня за т.зв. удзел у масавых непарадках у калёніі ў Наваполаку, пакараны карцэрам на 10 сутак. Пра гэта паведаміла «Свабодзе» маці палітвязьня. Мікіта Ліхавід патрапіў у карцэр, бо лічыць сябе незаконна асуджаным і адмаўляецца выконваць некаторыя працы, якіх ад яго вымагае адміністрацыя калёніі.

19 траўня

## Глыбоцкая фінансавая міліцыя дапытвае сьвятароў, настаўнікаў, журналістаў

Некалькі чалавек былі выкліканыя на допыт у Глыбоцкі адзьдзел Дэпартамэнту фінансавых расьследаваньняў. Супрацоўнікі адзьдзелу цікавяцца, ці замаўлялі гэтыя людзі кнігі праз Інтэрнэт. За апошні час у адзьдзеле былі дапытаныя настаўнік з Глыбокага і сьвятар з Браслаўшчыны. 16 траўня на допыт быў выкліканы журналіст «Вестак» Кастусь Шыталь. Супрацоўнік адзьдзелу пытаўся ў журналіста, ці ведае ён прозьвішча Яўдаха і ці атрымліваў поштай пасылкі з кнігамі, і ці замаўляў кнігі праз сайт knihi.net.

«Я адказаў, што не магу прыгадаць, дзе чуў такое прозьвішча. За апошнія гады я атрымаў і адправіў дастаткова шмат пасылак і пераводаў, таму ня памятаю, ці атрымліваў штонебудзь менавіта ад спадара Яўдахі», - кажа Шыталь.

«На стале ў адзьдзеле ляжыць сьпіс зь пятнаццаці чалавек. Сярод іх двое маіх знаёмых - студэнты з Паставаў. Акрамя таго, у сьпісе ёсьць людзі з Глыбокага і Браслава", - распавёў Кастусь Шыталь.

*Весткі.інфо*

19 траўня

## Уладзімер Яроменак атрымаў тры гады калёніі ўзмоцьненага рэжыму



20-гадовы сябра «Маладога Фронту» Ўладзімер Яроменак зь Мёраў судом Партызанскага раёну Менску быў асуджаны да трох гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму. Такі прысуд вынесены актывісту за ўдзел у «масавых непарадках», якія нібыта адбываліся ў Менску 19 сьнежня. Паплечнікі Ўладзімера Яроменка з «Маладога Фронту» правялі акцыю салідарнасьці са сваім сябрам.

19 траўня

## «Інвэнтарызацыя» па-віцебску, або Несанкцыянаваныя ператрусы ў жылых дамох




У Віцебску, нягледзячы на заявы па БТ пра знойдзеныя «лябараторыі тэрарыстаў», усё яшчэ нешта шукаюць у склепах мясцовых жыхароў. 18 траўня на пад'ездах дамоў па вуліцы Рэпіна, дзе жылі двое абвінавачаных у тэракце ў менскім мэтро 11 красавіка, пачалася прымусовая «інвэнтарызацыя склепаў». Праваабаронца Павал Левінаў лічыць, што пад такой фармулёўкай міліцыя рыхтуецца правесьці масавыя несанкцыянаваныя ператрусы.

У аб'явах, прымацаваных да ўваходных дзьвярэй у пад'езды, напісана, што кожны дзень да 31 траўня з 8-й раніцы да 21-й вечара кватэранаймальнікі мусяць забясьпечыць вольны доступ у свае склепы. Бо з мэтамі інвэнтарызацыі туды прыйдуць работнікі ЖЭУ №16 і супрацоўнікі РАУС (якога менавіта раёну, не пазначана).

Праваабаронца Павал Левінаў перакананы, што такі прымус незаконны:

«Ёсьць правілы ўтрыманьня жылых і дапаможных памяшканьняў, зацьверджаныя ў 1999 годзе. У адпаведнасьці з пунктам 6.4 гэтых правілаў, наймальнік або ўласьнік кватэры абавязаны забясьпечыць доступ у свой склеп работнікам, якія адказваюць за абслугоўваньне і рамонт жыльлёвага фонду. Але не работнікам міліцыі! І тое – для праверкі тэхнічнага ці санітарнага стану памяшканьня, або для правядзеньня рамонтных і аварыйных работ. Ні пра якую інвэнтарызацыю ў гэтым нарматыўным дакумэнце не гаворыцца».

Калі гаворка ідзе пра інвэнтарызацыю маёмасьці, якая захоўваецца грамадзянамі ў падвальных памяшканьнях памерам два на два мэтры, то яна цалкам незаконная, падкрэсьлівае праваабаронца. Аглядаць маёмасьць міліцыянты могуць толькі з санкцыяй пракурора на ператрус, або маючы зьвесткі, што менавіта ў гэтым месцы ў дадзены канкрэтны час адбываецца парушэньне закону. Апошні аргумэнт выключаны, бо інвэнтарызацыя, згодна з аб'явай, будзе праводзіцца два тыдні. Калі ж пад інвэнтарызацыяй разумець нейкі агляд агульнага памяшканьня, то пералічыць памяшканьні, правесьці нейкія вонкавыя замеры можна і ў адсутнасьць уласьнікаў, працягвае праваабаронца:

«Калі ёсьць патрэба пералічыць дзьверы ў агульным калідоры, праставіць нумары ці нешта такое – калі ласка! Але ж у аб'яве адкрытым тэкстам пагражаюць, што будуць ламаць дзьверы, калі гаспадары не адчыняць свае падвальчыкі. Значыць, супрацоўнікам міліцыі і работнікам ЖЭУ ўсе-ткі трэба трапіць унутар? А пад гвалтоўнае ўскрыцце можа трапіць хто заўгодна: канкрэтны дзень і час не пазначаны – значыць, або не хадзі на працу ды чакай "інвэнтарызатараў", або потым не крыўдуй?»

Маці аднаго з абвінавачаных у тэракце віцебскіх хлопцаў падзялілася сваімі меркаваньнямі:

«Наш склеп аглядалі ўжо двойчы – калі рабілі ператрусы ў нашай кватэры. Першы ператрус быў уначы 13 красавіка, у мяне ёсьць пратакол. Другі раз ператрус у кватэры і ў склепе рабілі без аніякага пратаколу, і нават панятых прывезьлі з сабой, а ня ўзялі суседзяў, як было раней. Мяне дома не было, з працы прывезьлі майго мужа, які ў кватэры нават не прапісаны, забаранілі яму перасоўвацца па кватэры, а самі рабілі што хацелі. Што забралі ў выніку і ці было такое ў кватэры ці ў склепе, я дагэтуль ня ведаю».

Спадарыня гаворыць, што мае сумненьні адносна аб'ектыўнасьці следзтва па справе, дзе яе сын выступае ў якасьці абвінавачанага. І сваімі меркаваньнямі яна адмыслова дзеліцца з журналістамі, бо спадзяецца на дапамогу: пасьля публікацыі пра тое, што яна нават ня ведае імя сьледчага па справе і не атрымлівае ад сына лістоў, ёй адразу паведамілі і імя, і нават нумар мабільнага тэлефону. А праз колькі дзён з ізалятару прыйшоў і сынаў ліст... Але кампанія масавых ператрусаў у склепах не выклікае ў спадарыні даверу.

Аб'явы зьявіліся толькі 18 траўня, хаця кампанія «інвэнтарызацыі» пачалася яшчэ тры дні таму, распавядае жыхар аднаго з дамоў па вуліцы Рэпіна:

«Звоніць міліцыянт у дзьверы, пытаецца: "У вас ёсьць памяшканьне ў скляпеньні?" Кажу, што ёсьць, спускаюся. Некалькі чалавек у падвале ходзяць і нейкі дзядзька пэндзьлікам крэмзае на дзьвярох нумары. Міліцыянт пытаецца: "Ну, дзе твой? Пайшлі!" А каму гэта якая справа, што ў мяне там ляжыць? Колькі ў мяне там бульбы захоўваецца дый увогуле што ў мяне там ёсьць?»

22 траўня

## Міліцыя правяла экскурсію для штрафнікоў і журналістаў

Супрацоўнікі віцебскай міліцыі арганізавалі экскурсію ў мясцовы ізалятар часовага ўтрыманьня для асобаў, якія ўпершыню былі пакараныя за адміністрацыйныя правапарушэньні, але толькі штрафамі. Паводле ідэі ініцыятараў, праваларушальнікі мусяць паглядзець на ўмовы ўтрыманьня ў ІЧУ і зрабіць усё, каб больш ніколі сюды ня трапіць.



Экскурсантаў сабралася каля 30-ці чалавек – тых, хто трапіў пад увагу міліцыі за дробнае хуліганства, бойкі або нявыплату аліментаў. Ім паказалі, як знутры выглядае «аўтазак», камэры, дворык для шпацыроў, прадэманстравалі, як адбываецца асабісты дагляд «новенькіх» і распавялі, якія ў ІЧУ існуюць правілы ўнутранага распарадку.

«Усё гэта нам паказвалі. Камэры страшныя, адна зусім пустая, у другой толькі нары, усё дужа змрочна. Сапраўдных зьняволеных у камэрах не паказвалі, але асабісты дагляд дэманстравалі – пакрыквалі на людзей, ставілі іх тварам да сьцяны, прымушалі раставляць ногі... Я ўяўляю, як гэта робіцца “ў жыцьці”, а не падчас экскурсіі, калі за ўсім назіраюць і журналісты. Напэўна, тут могуць і стукнуць, і абразіць. Адным словам, звычайнае запалохваньне, а не перавыхаваньне, якім потым супрацоўнікі міліцыі будуць хваліцца!», - распавёў адзін з экскурсантаў.

Разам з парушальнікамі ў ІЧУ сапраўды запрасілі журналістаў – каб тыя асьвятлялі прафіляктычную работу міліцыянтаў у СМІ.

«Магчыма, была і іншая мэта: напалохаць нас саміх. Маўляў, во што бывае, калі напішаш або сфатаграфуеш нешта ня тое», - жартавалі калегі.

Жарты падобнага кшталту небеспадстаўныя: падчас жалобнай акцыі да ўгодкаў аварыі ў Чарнобылі быў затрыманы, зьбіты і зьмешчаны ў ІЧУ незалежны журналіст Уладзіслаў Стараверaў. Яго затрымалі за тое, што ён фатаграфаваў міліцыянтаў, якія назіралі за ўдзельнікамі акцыі, але пратаколы ў пастарунку склалі за нецэнзурную лаянку ў грамадзкім месцы ды за непадпарадкаваньне патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі.

Экскурсія ў ізалятар часовага ўтрымання была першай прафіляктычнай акцыяй, арганізаванай супрацоўнікамі міліцыі для дарослых жыхароў Віцебску. Мінулай зімой у калёнію для непаўнагадовых вазілі віцебскіх «цяжкіх падлеткаў», і паводле зьвестак міліцыі, ніводзін з тых, хто пабываў у калёніі на экскурсіі, ня зьдзейсьніў правапарушэньня паўторна.

23 траўня

## Міністар інфармацыі правёў палітінфармацыю для сьвінагадоўцаў

19 траўня ў Беларусі праходзіў т. зв. «Дзень інфармаваньня насельніцтва». Тэма мерапрыемства, зладжанага ўладамі, была: «Ключавыя аспэкты Пасланьня Прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу». Як паведаміла газэта Віцебскага аблвыканкаму «Народнае Слова», найважнейшая падзея у рамках «дня інфармаваньня» адбылася ў Браславе. Менавіта сюды прыехаў сам міністар інфармацыі - Алег Праляскоўскі, каб асабіста прачытаць «палітінфармацыю» калектыву Сьвінагадоўчага комплексу СВК «Маяк Браслаўскі».

У сваёй прамове міністар інфармацыі распавёў прысутным жывёлаводам пра пляны на пяцігодку, пра тое, як мяркуецца разьвіваць сяло, забясьпечваць сацыяльныя гарантыі, падтрымліваць дэмаграфічную бясьпеку. Паводле словаў «палітінфарматара», дзяржава і далей будзе ўмацоўваць такія галіны, як ахова здароўя і адукацыя.



Гаворачы пра цяперашні стан беларускай эканомікі, Алег Праляскоўскі засяродзіўся не на праблемах, якія сёньня хвалююць, бадай, кожнага жыхара краіны, а на яе нібыта пасьпяховым разьвіцьці - у выніку тых намаганьняў, што прадпрымае ўрад. Ён выказаў упэўненасьць, што дзякуючы «максымальна спрыяльнаму клімату для прадпрымальніцтва», які быццам бы створаны з прыняцьцем дырэктывы № 4, значных праблемаў у эканоміцы ня будзе і надалей. Больш таго, паводле міністра, Беларусь чакае сапраўдны росквіт - скарыстаўшыся са свайго геаграфічнага становішча, краіна неўзабаве ператворыцца ў велізарны лягістычны цэнтар, што будзе яднаць Усход з Захадам!

Казаў міністар інфармацыі і пра тое, наколькі складана Беларусі адстойваць сувэрэнітэт. Вінаватыя ў складанасьцях, на думку ўрадоўца, ЗША і Эўразьвяз, якія прымяняюць да нас «падвойныя стандарты». Аднак, паводле словаў спадара Праляскоўскага, дзякуючы «шматвэктарнасьці дзяржаўнай палітыкі» і згодзе ў грамадзтве ўсе складанасьці пасьпяхова пераадольваюцца.

Дасталася ў прамове міністра інфармацыі і «асобным» апазыцыйным палітыкам - бо гэта яны распаўсюджваюць чуткі пра тое, што да тэракту ў менскім мэтро датычныя ўлады. Апошняе меркаваньне А. Праляскоўскі назваў неймавернай недарэчнасьцю. Аргумэнт, які ён выкарыстаў, каб абгрунтаваць гэтую сваю думку, уражвае сваёй геніяльнай прастатой - гэткім жа чынам можна было б апраўдаць таксама любыя крывавыя расправы рэжымаў Гітлера або Сталіна, што зьдзяйсняліся быццам бы на падставе закону: «Расьследаваньне вядуць жывыя людзі, іх многа. І што, кожнага прымусілі хлусіць?» - так міністар інфармацыі патлумачыў, чаму насельніцтва мусіць некрытычна прымаць любую інфармацыю, што агучваецца праваахоўнымі ворганамі, судамі або ўладай.

Такім чынам, мерапрыемства па нібыта «інфармаваньні» насельніцтва, па сутнасьці, сталася чарговай прапагандысцкай акцыяй уладаў, праведзенай у найлепшых традыцыях савецкіх часоў. Міністар, нічога не сказаўшы пра рэальныя праблемы, якія існуюць у Беларусі, адно распавядаў «байкі» пра тое, як у нас нібыта ўсё добра, а калі і ёсьць некаторыя складанасьці - дык вінаватыя ў тым «ворагі» ў выглядзе замежных краін і мясцовых «палітыканаў».

Пакуль улады займаюцца прапагандай, грамадзяне Беларусі ня маюць доступу да поўнай, аб'ектыўнай і праўдзівай інфармацыі празь дзяржаўныя СМІ. У той самы час у краіне працягваецца далейшы наступ на незалежныя мэдыі - зачыняюцца недзяржаўныя газэты, абмяжоўваецца доступ да вольных інтэрнэт-рэсурсаў, арыштоўваюцца журналісты.

Фота: *Казімір Пятушка*, «Народнае слова»

24 траўня

## Судзьдзя зь Віцебску дададзены ў сьпіс неўязных на тэрыторыю Эўразьвязу

24 траўня на сайце Афіцыйнага часопісу ЭЗ зьявіліся імёны яшчэ 13-ці беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю краін - чальцоў Эўразьвязу. Такім чынам, колькасьць беларускіх службоўцаў, неўязных у Эўразьвяз, павялічылася да 188 чалавек. Сярод тых, хто папоўніў сьпіс асобаў, у адносінах да якіх дзеюць эўрапейскія санкцыі, згадваецца і судзьдзя зь Віцебску Уладзіслаў Шыкароў.

Судзьдзя суду Чыгуначнага раёну Віцебску Шыкароў Уладзіслаў Аляксандравіч вядомы тым, што неаднаразова выносіў абвінаваўчыя прысуды ў дачыненьні да апазыцыянэраў і актывістаў грамадзянскай супольнасьці. У прыватнасьці, у красавіку 2008 г. ім быў пакараны штрафам у памеры 30 базавых велічынь сябра КХП БНФ Сяргей Каваленка за выхад у горад зь бел-чырвона-белым сьцягам. Цягам усяго аднаго месяца - сакавіка 2011 г. - Шыкароў ажно чатыры (!) разы штрафаваў іншага вядомага віцебскага актывіста - спадара Барыса Хамайду, штораз на суму 1,5 млн рублёў. Праваабаронцы лічаць гэтыя рашэньні, прынятыя судзьдзём Шыкаровым, палітычна матываванымі.

24 траўня

## Намагаючыся паменшыць вытворчы траўматызм, абласныя ўлады распачынаюць сэрыю чарговых праверак на прадпрыемствах



Абласныя ўлады распачалі т.зв. «месячнік грамадзкай бясьпекі». Як сьцьвярджаюць мэдыі, гэта азначае, што на прадпрыемствы і ў арганізацыі ў хуткім часе наляцяць чарговыя рэйды. Мэтай праверак будзе выяўленьне выпадкаў парушэньня правілаў аховы працы. Службовыя асобы, якія ў вызначаны тэрмін не ліквідуюць парушэньні, выяўленыя падчас інспэкцыяў, будуць прыцягвацца да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасьці. Месячнік быў абвешчаны з нагоды рэзкага росту вытворчага траўматызму: цягам першых чатырох месяцаў году на Віцебшчыне загінулі 10 і атрымалі сур'ёзныя траўмы 35 працаўнікоў.

Дзяржаўныя інспэктары працы, супрацоўнікі МНС, праваахоўных ворганаў і пракуратуры мусяць праверыць ня толькі прадпрыемствы і арганізацыі, але таксама будаўнічыя і сельскагаспадарчыя аб'екты. Уся бягучая інфармацыя па выніках праверак будзе накіроўвацца ў Камітэт па працы Віцебскага аблвыканкаму.

Спробы палепшыць сытуацыю зь бяспекай на вытворчасьці праз разнастайныя адміністрацыйныя заходы прадпрымаюцца ўладамі не ўпершыню. Аднак на практыцы такія мэтады зьяўляюцца малаэфэктыўнымі. Часьцяком асноўнай прычынай здарэньняў зьяўляецца дрэнная аснашчанасьць вытворчых памяшканьняў і састарэласьць абсталяваньня.

Так, акурат сёньня ў Воршы і Аршанскім раёне распачалася маштабная праверка стану прадпрыемстваў Міністэрствам па надзвычайных сытуацыях. Аднак, нягледзячы на праверку, менавіта сёньня на прадпрыемстве Воршы адбыўся велізарны пажар. Загарэлася вытворчае памяшканьне на мясакансэрвавым заводзе. У выніку пажару загінулі 4 чалавекі.

25 траўня

## ЦІ АДКАЖА ЛУКАШЭНКА ЗА «КАЗЛА»?



25 траўня праваабаронцу Паўла Левінава апытаюць наконт факту лукашэнкаўскіх выказваньняў на адрас галавы Эўрапейскай камісіі Жазэ Мануэля Барозу. Нагадаем, 26 красавіка 2011 году ў Нароўлі (Гомельская вобл.) Аляксандар Лукашэнка публічна заявіў: «Што тычыцца гэткіх казлоў, як Барозу...». Пасьля гэтых выказваньняў Павал Левінаў зьвярнуўся да начальніка Нараўлянскага РАУС з заявай.

У сваёй заяве П. Левінаў прывёў прыклад практыкі, якая склалася ў Віцебску, дзе судзьдзя Чыгуначнага раёну У. Шыкароў у пастанове ад 25 жніўня 2010 году кваліфікаваў слова «казёл» як зьнявагу, што прыніжае гонар і годнасьць асобы, выказаную ў непрыстойнай форме, і падвергнуў грамадзяніна В. Рамнёва за падобныя выразы штрафам у памеры 25 базавых велічынь. Судзьдзя Віцебскага абласнога суду І. Смалякова і намесьнік Стыршыні Вярхоўнага Суду В. Калінковіч нагодаў да скасаваньня гэтай пастановы ня ўгледзелі.

Спасылаючыся на нацыянальную практыку і дзейнае заканадаўства, згодна зь якім адказнасьць грунтуецца на прынцыпах роўнасьці перад законам, у сваёй заяве Павал Левінаў просіць распачаць адміністрацыйны працэс у адносінах да грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

Крыніца: *«Беларускі Партызан»*

25 траўня

## Адміністрацыя ААТ «Полацк-Шкловалакно» нарэшце прызнала законнае права Свабоднага прафсаюзу



Як паведаміў інфармацыйны бюлетэнь «Стекляшка», 25 траўня на ААТ «Полацк-Шкловалакно» адбудзецца першае паседжаньне камісыі па калектыўных перамовах з удзелам прадстаўніка Свабоднага прафсаюзу Беларускага. Патрабаваньне Свабоднага прафсаюзу работнікаў ААТ «Полацк-Шкловалакно» пра магчымасьць удзелу ў калектыўных перамовах было накіраванае генэральнаму дырэктару яшчэ 21 красавіка, аднак адміністрацыя прадпрыемства ў той час праігнаравала патрабаваньне прафсаюзнікаў. У выніку, каб адстаяць сваё законнае права на заключэньне калектыўнай дамовы, гарантаванае заканадаўствам і Канвэнцыяй Міжнароднай арганізацыі працы, Свабодны прафсаюз вымушаны быў зьвярнуцца са скаргай да працоўнага арбітра.

13 траўня адбыліся сустрэчы арбітра з Генэральным дырэктарам, прадстаўнікамі Свабоднага прафсаюзу, прадстаўнікамі дзяржаўнага Белхімпрафсаюзу. Аргумэнты актывістаў СПБ былі прызнаныя слушнымі, і ў той самы дзень Свабодны прафсаюз атрымаў ліст з выпіскай з пратаколу супольнага паседжаньня адміністрацыі прадпрыемства і Белхімпрафсаюзу пра пастанову ўключыць у склад камісіі па калектыўных перамовах прадстаўніка СПБ.

Такім чынам, законныя патрабаваньні Свабоднага прафсаюзу нарэшце задаволеныя. Дагэтуль першасная арганізацыя СПБ на ААТ «Полацк-Шкловалакно», насуперак заканадаўству, не магла афіцыйна дзейнічаць на прадпрыемстве ў адпаведнасьці з прынятай калектыўнай дамовай.

26 траўня

## Кіраўніцтва «Нафтану» ня хоча падпісваць калектыўную дамову зь Незалежным прафсаюзам

Як толькі на «Нафтан» быў прызначаны новы генэральны дырэктар, пяршоўка Незалежнага прафсаюзу аб'яднаньня зьвярнулася да яго з просьбай аб сустрэчы. На ёй меркавалася вырашыць пытаньне, што зайшло ў тупік, пра заключэньне калектыўнай дамовы паміж наймальнікам і працаўнікамі ААТ «Нафтан», якія ўваходзяць у Незалежны прафсаюз. Як адзначылі «незалежныя», іх нядаўняя сустрэча з новым гендырэктарам прадпрыемства адбылася «ў дзелавой і сяброўскай абстаноўцы, але мэта дасягнутая не была».




З боку наймальніка ў сустрэчы ўдзельнічаў генэральны дырэктар Уладзімер Трацьцякоў, дырэктар заводу «Палімір» Алег Жэбін, і намесьнік генэральнага дырэктара па ідэалягічнай працы Мікалай Калбасенка. З боку Незалежнага прафсаюзу прысутнічалі старшыня пяршоўкі Іван Сьвятоха і два ягоныя намесьнікі - Генадзь Варона і Ніна Турчына. Уладзімер Трацьцякоў прапанаваў Незалежнаму прафсаюзу супрацоўнічаць, але не пагадзіўся ані на заключэньне асобнай калектыўнай дамовы, ані на падпісаньне дадатковага пагадненьня да таго, што ўжо дзее.

Паводле заканадаўства, наймальнік ня мае права адмовіць у вядзеньні перамоваў. З гэтай нагоды «незалежныя» спрабавалі зьвярнуцца ў пракуратуру. Аднак наваполацкія наглядачы ня ўгледзелі парушэньня закону ў дзеяньнях адміністрацыі «Нафтану» і параілі прафсаюзу зьвярнуцца ў інспэкцыю працы і абласны арбітраж. Са зваротамі ў гэтыя інстанцыі ў сяброў Незалежнага прафсаюзу выйшла амаль анэкдатычная сытуацыя:

«Мы зьвярнуліся ў абласны арбітражны суд і адначасова ў Полацкую міжраённую інспэкцыю працы, - распавядае Генадзь Варона. - Віцебскі працоўны арбітраж паведамляў нам, што справа разгледжана і накіравана для рэагаваньня ў міжраённую інспэкцыю працы. А з Полацкай міжраённай інспэкцыі амаль адначасова прыйшоў адказ, што наша заява разгледжаная і скіраваная ў Віцебскі абласны арбітражны суд ...»

Зараз прафсаюзныя актывісты чакаюць адказу з Рэспубліканскага арбітражнага суду і Рэспубліканскай інспэкцыі працы.



Сёньня судом Завадзкога раёну Менску былі вынесеныя прысуды групе анархістаў. Асноўнае абвінавачаньне, прад'яўленае ім, - арганізацыя шэсьця ля Генэральнага штабу Ўзброеных сілаў Беларусі ў

27 траўня

## Анархісту, абвінавачанаму ва ўзломе сайта Наваполацкага гарвыканкаму, далі 3 гады

верасьні 2009 г. Апроч таго, анархісты былі пакараныя і за іншыя акцыі, якія, на думку суду, былі зьдзейсьненыя імі. Так Аляксандра Францкевіча абвінавацілі, сярод іншага, і ва ўзломе сайта Наваполацкага гарвыканкаму. Яго прысудзілі да трох гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму.

Іншыя прысуды, вынесеныя сёньня:

Ігар Аліневіч асуджаны на восем гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму.

Мікалай Дзядок - чатыры з паловай гады пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму.

Максім Веткін - чатыры гады абмежаваньня волі з накірваньнем ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу.

Яўген Сілівончык - паўтары гады абмежаваньня волі з накіраваньнем у папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу.

27 траўня

## Талачынскія ўлады — супраць футбалістаў кампаніі «Наш Дом»

Пасьля футбольных спаборніцтваў, у якіх узяла ўдзел мясцовая каманда грамадзянскай кампаніі «Наш Дом», у Талачынскі гарвыканкам пачалі выклікаць бацькоў футбалістаў. Чыноўнікі казалі, што юнакам трэба адмовіцца ад знаёмства з актывістам кампаніі Мікалаем Петрушэнкам і не гуляць у форме зь лягатыпам кампаніі.

Мікалай Петрушэнка з гэтай нагоды зьвярнуўся да дэпутата Аршанскага гарсавету Сяргея Барвянкова, каб той зрабіў дэпутацкі запыт у рэгіянальны адзьдзел КДБ:

«Няхай у КДБ пацьвердзяць ці абвергнуць тое, у чым мяне абвінавацілі — у тым, што я маю нейкае фінансаваньне з-за мяжы і на гэтыя грошы набыў зялёныя футбольныя майкі з надпісам „Наш Дом", а таксама што я зьяўляюся „спонсарам" паездак каманды на розныя спаборніцтвы. Ну ці ня сьмешна: у выканкам выклікаюць бацькоў дарослых 25-гадовых хлопцаў ды ўшчуваюць іх за сыноў: маўляў, няхай ня водзяцца зь Петрушэнкам!»



Калі спадар Петрушэнка сам зьявіўся ў райвыканкам ды папрасіў патлумачыць падставы для гутарак з бацькамі, яму адказалі, што галоўнае — каб хлопцы не надзявалі майкі зь лягатыпам «Нашага Дому», а бязь іх гуляць у футбол можна.

28 траўня

## Дзень народзінаў палітвязень Ліхавід сустрэў у карцэры

27 траўня ў вязьня Наваполацкай калёніі, актывіста руху «За свабоду» Мікіты Ліхавіда, дзень народзінаў. Гэты сьвяточны для сябе дзень Мікіта адбыў у карцэры, куды трапіў другі раз і ўсё па той самай прычыне: хлопец называецца «незаконна асуджаным» і адмаўляецца выконваць некаторыя патрабаваньні адміністрацыі. Першы раз Мікіту Ліхавіда пакаралі 10 днямі карцэра, гэтым разам ён атрымаў 15 сутак. Сёньня маці Мікіты ўдалося атрымаць зь ім кароткае спатканьне.

Алена Ліхавід: «Канечне, вельмі схуднелы. Вельмі. Ніяк не чакаў, што мяне ўбачыць. Па-першае, на дзень народзінаў, а тут яшчэ і з карцара яго прывялі да мяне — ніяк не чакаў. Мы ўбачыліся, абняліся і я за 5 месяцаў упершыню трымала сына за руку. Казаў, мама, ты мяне зараз задушыш. Я расплакалася. Ручкі халодненькія, тоненькія, шчокі запалыя...Але нічога. Прарвёмся. Мяркую, усё ў нас атрымаецца».

Над Мікітам узяў шэфства дэпутат Бундэстагу Нямеччыны Лукас Шультэ. Пра гэта нямецкі палітык паведаміў маці беларускага палітвязьня ў лісьце. У тым ліку такое шэфства азначае інфармаваньне калегаў у Нямеччыне пра справы вязьня і ціск, які ён зьведвае падчас адбываньня пакараньня.

*Алег Грузьдзіловіч*, Радыё Свабода

28 траўня

## АДМІНІСТРАЦЫЯ КАЛЁНІІ: НЕ ПІШЫЦЕ СТОЛЬКІ ЛІСТОЎ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ!



Алесю Атрошчанкаву дасылаюць лісты падтрымкі з усяго сьвету. Дар'я Корсак, жонка прэсавага сакратара Саньнікава, вязьня віцебскай калёніі Алеся Атрошчанкава, паведаміла, што яе муж атрымлівае шмат лістоў і паштовак. Людзі з усяго сьвету пішуць яму словы салідарнасьці і падтрымкі.

Пасланьняў столькі, што ўзьніклі праблемы ў турэмнай цэнзуры, кажа жонка палітвязьня: «Ён напісаў, што лісты, якія яму шлюць, амаль што блякуюць працу турэмнай цэнзуры, і адміністрацыя папрасіла, каб яму дасылалі лісты толькі на беларускай, расейскай і ангельскай мовах. Я гэтак разумею, што яму пішуць з усяго сьвету і на розных мовах. Я вельмі ўдзячная за такую салідарнасьць».

29 траўня

## На Віцебшчыне патрабуюць адказу ад дэпутатаў



«Куды вы пахаваліся? Чаму, калі так цяжка стала жыць нашаму народу, вас нідзе не чуваць? Калі вас абіралі, то мясцовыя ўлады дапамагалі вам ладзіць сходы, а зараз вас ня знойдзеш!» – піша жыхар Паставаў, былы вайсковец Уладзімер Бароўка. Грамадзянская кампанія «Наш Дом» таксама выступіла зь бестэрміновай ініцыятывай «Депутатаў – да адказу!»

Пастаўчанін Уладзімер Бароўка зьвярнуўся да дэпутатаў у адкрытым лісьце празь незалежныя СМІ. Ён патрабуе, каб дэпутаты ўсіх узроўняў павярнуліся тварам да людзей у цяжкі эканамічны час - каб праводзілі сустрэчы, сходы, тлумачылі насельніцтву, што адбываецца са спажывецкім і валютным рынкам, а галоўнае – каб абвясьцілі, што яны асабіста робяць для таго, каб сытуацыя ў Беларусі стабілізавалася.

«Я зьвяртаюся да ўсіх дэпутатаў, і асабіста – да прадстаўніка Пастаўшчыны ў Палаце прадстаўнікоў Эдуарда Казуры. Калі вам трэба было абірацца, улады арганізавалі сходы ці ня ў кожнай вёсцы, каб вы толькі выступалі. А дзе вы ўсе зараз? Можа, раз на месяц і прымаеце кагосьці ў сваіх кабінэтах, аднак паводле закону аб дэпутацкай дзейнасьці вы мусіце трымаць рэгулярныя справаздачы перад вашымі выбаршчыкамі. Раскажэце ім, чаму жыцьцё стала такое цяжкае. Ці можа спадар Казура ня лічыць, што яно цяжкае і ня ведае пра гэта, бо ў ягоных сваякоў ёсьць некалькі камэрцыйных аб'ектаў побач з Пастаўскім райвыканкамам, дзе Эдуард Пятровіч некалі быў старшынём?» — разважае ў адкрытым лісьце спадар Бароўка.

У 2008 годзе, падчас парлямэнцкіх выбараў, Уладзімер Бароўка быў супернікам Эдуарда Казуры – ён таксама балятаваўся, і на адной з сустрэчаў з выбаршчыкамі публічна прапанаваў старшыні райвыканкаму зьняць сваю кандыдатуру:

«Я сказаў, што трэба катэгарычна забараніць выкарыстаньне адміністрацыйнага рэсурсу і падвысіць адказнасьць за гэта. А потым распавёў, што накіраваў скаргі ў Цэнтравыбаркам і пракуратуру пра шматлікія парушэньні з боку Эдуарда Казуры. І зьвярнуўся да яго, маўляў, так рабіць нельга, і вам варта зьняць з выбараў сваю кандыдатуру. Рэакцыя была бурная: ён выйшаў на сцэну і стаў на мяне крычаць: што я з апазыцыі і адпрацоўваю заходнія грошы».

Цяперашні ліст, кажа спадар Бароўка, напісаны ня з крыўды на тое, што яго тады не абралі – вялікіх спадзеваў перамагчы старшыню райвыканкаму, якога падтрымліваюць «наверсе», ён ня меў. Але перакананы: выбарцы маюць права патрабаваць справаздачаў ад таго, хто заклікаsuccessfully прадстаўляць іхныя інтарэсы. Тым больш у такія нялёгкія часы, калі ў крамах разьбіраюць соль і запалкі, становяцца ў чэргі па цукар і воцат...

Зварот да дэпутатаў жыхар Паставаў напісаў ад сябе асабіста, яшчэ ня ведаючы пра тое, што грамадзянская кампанія «Наш дом» ужо таксама выступіла з бестэрміновай ініцыятывай «Дэпутатаў – да адказу!»

«Мы імкнемся прымусіць дэпутатаў выконваць заканадаўства аб іх дэпутацкім статусе і Закон аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні, — тлумачыць актывіст кампаніі «Наш Дом» Мікалай Петрушэнка з пасёлку Коханава Талачынскага раёну. – У нас у Беларусі каля 24 тысяч дэпутатаў мясцовых Саветаў – ад абласнога ўзроўню і ніжэй. Яны мусяць выступаць са справаздачамі пра сваю дзейнасьць, у тым ліку пра тое, што яны зрабілі па сваіх выбарчых праграмах і па зваротах выбаршчыкаў».

Але, кажа спадар Петрушэнка, каля 90% дэпутатаў свае праграмы нават нідзе не публікавалі – верагодна, каб было пазьбегнуць адказнасьці перад землякамі. І грамадзкія сходы праводзіць яны таксама не імкнуцца з тае самае прычыны – асабліва ў цяперашні праблемны час.

29 траўня

## Праверкі ў школах Глыбоччыны: ад веданьня гімна Беларусі да асабістай маёмасьці настаўнікаў

«Сёньня наш клясны кіраўнік паведаміў, што ў школу прыедзе прэзыдэнцкая праверка. Трэба быць у афіцыйным стылі адзеньня, а таксама вывучыць гімн Беларусі і нашых галоўных палітычных асобаў (Макей, Румас, Мясьніковіч, Андрэйчанка і інш). Вядома ж, папярэдзілі, што калі зададуць пытаньне накшталт “Ці хочаце вы, напрыклад, у Амерыку?” трэба адказаць “канструктыўна”, а калі насамрэч хочаш, то лепш прамаўчаць. Альбо сказаць завуалявана : “Ну, калі пасьля вучобы мяне адправяць у тую краіну здабываць вопыт ...” і так далей», - распавядае вучань. А ў настаўнікаў правяралі нават сумкі і нататнікі.



Праверкі ў школах Віцебскай вобласьці праводзяцца пасьля выбуху ў менскім мэтро: спачатку праверылі СШ №35, дзе вучыліся двое хлопцаў, абвінавачаных ва ўчыненьні тэракту, а потым камісіі паехалі па ўсім рэгіёне. Віцебская СШ №35 атрымала шэраг заўваг па няякасным правядзеньні ідэалягічнай і выхаваўчай працы. Таму вучняў вобласьці адмыслова рыхтуюць да такіх праверак.

А вось што распавядаюць бацькі вучняў зь вёскі Дзеркаўшчына Глыбоцкага раёну: «Спачатку школьнікаў выгналі ў двор на ўроку фізкультуры, каб тэрмінова рабіць “альпійскую горку”. А потым, калі камісія ўжо прыехала, дык правяралі сталы настаўніц, і нават іх сумкі ды нататнікі. Няўжо шукалі там бомбу? А яшчэ што абурыла: дзеці нашы носяць у школе зьменны абутак, а пакінуць яго няма дзе – дык раней пакідалі проста ў клясе, каб не цягаць з сабой. А цяпер адміністрацыя заявіла, што ў качагарцы ўсё спаляць, бо няможна трымаць у школе ніякія пакеты – раптам дзеці схаваюць туды выбухоўку!»

Настаўнікі розных школ абменьваюцца досьведам – што ў якой школе шукалі, ці знайшлі, і якія цяпер будуць наступствы. «Гэта такое прыніжэньне, што не перадаць словамі! Якая можа быць павага да нас з боку вучняў, калі яны бачаць, што нейкія “правяральшчыкі” рыюцца ў нашых асабістых рэчах, у сталах, у шафах з кнігамі ды сшыткамі! Нібыта мы сьвядома гадуем злачынцаў і “падрыўнікоў” – так нас правяраюць, такі да нас недавер,» – кажа настаўніца з Глыбоччыны.

*Кастусь Шыталь*, Весткі.info

31 траўня

## Абвінавачаныя ў выбуху ў менскім мэтро зьдзяйсьнялі тэракты з 14-гадовага ўзросту?



Намесьнік генеральнага пракурора Андрэй Швед выступіў з заявай, у якой паведаміў, што асобы, падазраваныя ў ажыцьцяўленьні выбуху ў мэтро, ёсьць ня толькі датычнымі да нядаўняга тэракту ў Менску, але вінаватыя яшчэ ў сама меней як 14-ці злачынствах, зьдейсьненых у пэрыяд з 2000 да 2011 гг. «Сьледчай групай выяўленыя новыя факты зьдзяйсьненьня абвінавачанымі злачынных дзеяньняў на тэрыторыі Беларусі. Усталявана, што абвінавачаныя распачалі сваю злачынную дзейнасьць ад 2000 году. То бок цягам больш як дзесяці год яны зьдзяйсьнялі злачынныя дзеяньні ў адным з мікрараёнаў Віцебску, у асноўным з прымяненьнем выбуховых прыладаў,» - сказаў Андрэй Швед. Такім чынам, са слоў генпракурора вынікае, што Дзьмітры Канавалаў і Ўлад Кавалёў, якім цяпер па 25 год, распачалі сваю тэрарыстычную дзейнасьць у 14-гадовым узросьце!

Сваякі і знаёмыя абвінавачаных ня вераць у тое, што менавіта спадары Канавалаў і Кавалёў зьдзейсьнілі выбухі ў Менску, у выніку якіх загінула 15 чалавек. Яны не выключаюць магчымасьці, што дзеля здабыцьця з боку абвінавачаных прызнальных паказаньняў у адносінах да апошніх прымяняліся катаваньні. Таксама шмат хто з экспэртаў выказваюць сумненьні ў тым, што хлопцы з рабочай ускраіны Віцебску - раёну ДСК - маглі вырабіць нагэтульні складаную выбухоўку, якая больш нагадвае прыладу з арсэналу сьпецслужбаў, чымся вынаходку аматараў. Раней паведамлялася, што бацька галоўнага абвінавачанага, які таксама быў арыштаваны, Генадзь Канавалаў, ратуючы сына, узяў усю віну за арганізацыю выбуху ў мэтро на сябе. Матывам да гэткага ўчынку, паводле словаў Генадзя Канавалава, паслужыла нязгода з рэжымам і абурэньне дзеяньнямі ўлады.

31 траўня

## Звольнены дырэктар Віцебскага завода трактарных запчастак, дзе працаваў абвінавачаны па справе аб тэракце ў мэтро

Дырэктар РУП «Віцебскі завод трактарных запасных частак» Уладзімер Федарэнка загадам міністра прамысловасьці звольнены з 31 траўня 2011 году. Дырэктар прадпрыемства вызвалены ад пасады за грубае парушэньне працоўных абавязкаў кіраўніка арганізацыі, што выявілася ў незабесьпячэньні выкананьня даведзеных да прадпрыемства паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця, нізкім узроўню працоўнай, вытворчай і выканаўчай дысцыпліны, адсутнасьці належных умоў працы для работнікаў прадпрыемства, бескантрольнасьці за захоўнасьць матэрыяльных каштоўнасьцяў, недагляздзе ў вядзеньні выхаваўчай, ідэалягічнай і кадравай работы на прадпрыемстве.

Апроч таго, пракуратурай Віцебскай вобласьці ў дачыненьні Ўладзімера Федарэнкі ўзбуджаная крымінальная справа паводле прыкметаў складу злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 210 КК (раскраданьне праз злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі). Устаноўлена, што Ўладзімер Федарэнка, займаючы пасаду дырэктара РУП «Віцебскі завод трактарных запасных частак», у пэрыяд з красавіка 2006 году па красавік 2011 году па папярэдняй змове зь іншымі асобамі зьдзейсьніў раскраданьне грашовых сродкаў завода, што выплачваліся ў якасьці камандзіровачных.

Раней праходзіла інфармацыя пра тое, што абвінавачаны па справе аб тэракце ў менскім мэтро працаваў на гэтым віцебскім прадпрыемстве.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.